наша жыццё, на нашы дарогі, тэлекамунікацыю, фінансы і гандаль. А нашы ўлады аддалі гэта замежным капіталістам, якія гэта зманапалізавалі і накінулі нам высокія пошліны, маржу і плацілі добра сваім замежным прадстаўнікам ды высылалі нашы прыбыткі за мяжу. Мы мусілі аплачваць іх фірмовыя знакі, кансультацыі і іншыя прывезеныя імі элементы, як гузікі ці металічныя накрыўкі да бутэлек. Асабліва вялікай памылкай бала перадача фінансавай інфраструктуры замежным капіталістам, напрыклад, аддавалі ім пенсійныя фонды. Бралі яны высокія маржы і плату за крэдыты. Напрыклад, адзін з канцэрнаў з паўднёвай Еўропы купіў у Польшчы адзін вялікі польскі банк, які меў вартасць 3,5 % для канцэрну, а даваў яму 30 % прыбытку.

**1 студзеня** Чэхуў, Косуў-Ляцкі, Нэкля, Прысіцэ і Тышоўцэ атрымалі гарадскія правы, а Плакавіцэ былі далучаныя да Львуўка-Слёнскага.

**6 студзеня** Сейм прыняў закон аб стварэнні ўстановы Абароны правоў дзіцяці.

**21 студзеня** Кампіноскі нацыянальны парк увялі ў міжнародны спіс запаведнікаў біясферы ЮНЕСКА.

**23 лютага** члены арганізацыі Нашосьць падчас дэманстрацыі супраць вайны ў Чачні апаганілі расійскі флаг на тэрыторыі Генеральнага консульства Расійскай Федэрацыі ў Познані.

**1 сакавіка** паўстаў Інстытут імя Адама Міцкевіча.

**15 красавіка** пачаў служыць падараваны ўрадам ЗША ракетны фрэгат КРП Ген. К. Пуласкі.

**22 сакавіка** польскі пасажырскі парава-турбінны карабель КПТ(ТСС) Стэфан Баторы ўлады прадалі на лом турэцкай суднаверфі.

**25 сакавіка** Андрэй Вайда атрымаў у ЗША прэмію Оскар за сваю творчасць.

**15 красавіка** было створана Цэнтральнае следчае бюро.

**24 красавіка** з непрацуючай шахты руды ўрана стварылі падзямельны турыстычны шлях даўжынёй 1200 м., Штольню Кавары.

## Беларусь

**26 студзеня** ўступіў у сілу Дагавор аб стварэнні адзінай Саюзнай дзяржавы, падпісаны прэзідэнтамі Расіі і Беларусі 8 снежня 1999 г. 26 студзеня прайшло ў Маскве пасяджэнне Вышэйшага Дзяржаўнага Савета Саюзнай Дзяржавы.

Па беларускай статыстыцы сярэдні заробак у Беларусі налічваў 34 871 899 рублёў у снежні 1999 г. і 1 студзеня 2000 г. прайшла дэнамінацыя беларускага рубля 1000 на 1, аднялі тры нулі. І 31 студзеня 2000 г. сярэдні заробак налічваў 36 659 рублёў, а ў чэрвені павысіўся да 57 596 рублёў. З 1 студзеня 2000 г. былі ўведзены банкноты 1, 5, 10, 20, 50, 100, 500, 1000 рублёў. Банкноты з 1992-1999 гг. былі важнымі ў 2000 годзе, толькі адымаліся ў іх тры нулі.

„2000 год быў годам далейшага ўмацаваньня аўтарытарнага кіравання Аляксандра Лукашэнкі і барацьбы беларускай апазіцыі за дэмакратычня змены ў краіне. Як і ў ранейшыя гады кіравання краінай Лукашэнкам, шэсці, мітынгі, пікеты праходзілі пад кантролем не толькі міліцыі, але і спецслужбаў і заканчваліся арыштамі ўдзельнікаў і арганізатараў. Буйнейшымі акцыямі апазіцыі ў 2000 годзе былі «Марш Свабоды-2» і «Марш Свабоды-3», «Чарнобыльскі шлях-2000», святкаванні Дня Канстытуцыі, Дня Волі, Дня Незалежнасьці, мерапрыемствы, прысвечаныя байкоту выбараў у лукашэнкаўскі парламент. Найбольш жорстка ўлады расправіліся з удзельнікамі святкавання Дня Волі 25 сакавіка ў Мінску. Было арыштавана больш за 500 чалавек, у тым ліку 36 журналістаў беларускіх і акрэдытаваных у Беларусі сродкаў масавай інфармацыі, лідэры партыяў, праваабаронцы і нават асобы, якія валодаюць дыпламатычнай недатыкальнасцю: прадстаўнік місіі АБСЕ ў Беларусі Крыстафер Паніко, дэпутат Польскага сейму Марыюш Камінькі, а таксама восем грамадзянаў Польшчы і грамадзянін Чэхіі. Арышты суправаджаліся здзекамі над затрыманымі, знявагаю іх чалавечай годнасьці і з біццём", – фрагмент з «Агляду – хронікі парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі ў 2000 годзе».

**1 лютага 2000 г.** пачаліся масавыя забастоўкі прадпрыемстваў, якія закончыліся 20 лютага. Прычынай забастовак быў уведзены ўрадам падатак на дабаўленую вартасць, які быў кепска апісаны ў законе. А. Лукашэнка нейкі час пашумеў, аднак хутка падпісаў дэкрэт які зняў напружанне.

Калі прэзідэнтам Расіі стаў У. Пуцін, пачаўся новы этап палітыкі Расіі ў адносінах да Беларусі. А. Лукашэнка страіціў ілюзіі, што пасля Б. Ельцына ён стане кіраўніком супольнай дзяржавы Расіі і Беларусі. Улады ў Маскве пакінулі інтэграцыйную канцэпцыю Расіі і Беларусі як нерэальную. Пуцін стараўся ўзмоцніць гаспадарчае ўздзеянне на Беларусь, стараўся выкарыстаць эканамічную залежнасць Беларусі ад Расіі.

Залежнасць Беларусі ад Расіі ў справах абароны была найбольш бачная. Беларусь не мае толькі фінансавых сродкаў, каб весьці самастойную абаронную палітку, якія мае Расія. Дзве дзяржавы выказваюць адносна замежнай палітыкі таксама супольную згоду, хоць Расія тады была зацікаўленая весці згодную палітыку з ЗША і Еўрасаюзам, а адносіны Беларусі да заходніх дзяржаў былі замарожаныя. Аднак планы гаспадарчай інтэграцыі ў галіне грашовай, гандлёвай палітыкі, як і ў энергетычным сектары не былі выкананыя. Прычынай была розніца гаспадарчых сістэмаў у гэтых дзяржавах. Расія праводзіла рынычныя рэформы, а Беларусь трымалася савецкай сістэмы гаспадаркі планаванай цэнтральна. У сувязі з тым Расія пачала агранічваць дапамогу Беларусі, давала яе ў залежнасці ад уступкаў Беларусі Расіі.

Расія старалася ўсё больш і больш паставіць Беларусь у залежнасць ад сябе.

У 2000 годзе спіс людзей, якія ў Беларусі знікнулі бясследна папоўніў тэлеаператар расійскай кампаніі ГРТ Дзмітры Завадзкі. 7 ліпеня ён прапаў без вестак па дарозе ў аэрапорт „Мінск2". У сувязі з тым, што гэта быў расійскі грамадзянін, знайшлі вінаватых. Вінаватымі ў захопе Д. Завадзкага былі палічаны афіцэры МУС „Алмаз" Валерый Ігнатовіч і Максім Малік, якія атрымалі пажыццёвае зняволенне, і былы курсант Акадэміі МУС, які атрымаў 25 гадоў турмы і таксама Сяргей Савушкін, які атрымаў 12 год турмы. Усе прыгаворы вынеслі судом у закрытым парадку. Ніхто з іх віны сваёй не прызнаў. Цела згінуўшага журналіста ніколі не знайшлі.

У 2000 годзе рэпрэсіі ў Беларусі далей прадаўжаліся, суды беспадстаўна каралі многіх людзей якія выступалі супраць рэжыму А.Лукашэнкі, не дапускалі да свабоды слова. У 2000 годзе беларускія суды пакаралі Анатоля Букачова, жонку Міхала Чыгіра, Юлію Чыгір, самога Міхала Чыгіра, Надзею Грачуху і іншых. Не магу апісаць і пералічыць тут усіх арыштаваных і асуджаных, бо заняняло бы мне апісанне некалькі старонак тэксту. Многіх сваіх праціўнікаў А. Лукашэка няслушна абвінавачваў у карупцыі, а падпарадкаваныя яму суды няслушна каралі іх зняволеннем, так як прэзідэнт жадаў.

## Расія

**9 студзеня** чачэнскія баевікі прарваліся ў Шалі і ў Аргун. Кантроль федэральнае войска над Шалі аднавіла 11 студзеня, а над Аргуном – 13 студзеня.

**5 лютага** многа чачэнскіх жыхароў згінула ад бамбёжак і голаду ў пасёлку Новыя Адды ля Грознага.

**6 лютага** федэральнае войска захапіла сталіцу Чачні – горад Грозны.

**22-29 лютага** федэральнае войска захапіла чачэнскі горад Шатой, аднак лідары чачэнскіх тэрарыстаў, Масхадаў, Хатаб і Басаеў уцяклі з акружэння. Першы намеснік камандуючага федэральнымі сіламі Генадзій Трошаў аб'явіў аб заканчэнні аперацыі ў Чачні.

**29 лютага** гіне 6-тая рота, 2-тага батальёна, 104 парашутна-дэсантнага палка,76 дывізіі ў баях за вяршыню 776 у Чачні.

**5-20 сакавіка** праходзілі баі за вёску Камсамольск у Чачні.

**12 сакавіка** ў Чачні быў захоплены і давезены ў Маскву тэрарыст Саман Радуеў, якога засудзілі на пажыццёвае зняволенне. Памёр ён у турме.

**21 сакавіка** злачынца Руслан Любецкі забіў праваслаўнага святара іераманаха Грыгорыя Якаўлева, адрэзаў яму галаву і павесіў яе на царкоўны алтар. Злачынца назваў сябе воінам Крышны, хоць ім не быў, і папаў у псіхбальніцу. У 2010 г. яго выпусцілі адтуль і забіў яго мядзведзь.

**26 сакавіка** прайшлі выбары прэзідэнта Расіі. У выбарах перамог Удадзімір Пуцін, атрымаўшы 53 % галасоў. Камуніст Г. Зюганаў атрымаў 29,2 %, Яўлінскі – 5 % галасоў. Яшчэ 8 кандыдатаў атрымала менш чым 3 % галасоў кожны. У выбарах прымала ўдзел 68,7 % выбаршчыкаў. У. Пуцін нічога не абяцаў у выбарах, аднак людзі хацелі змен, чакалі цвёрдага лідэра, які навядзе ў дзяржаве парадак. Пуцін атрымаў папулярнасць, бо за кароткі час расійскае войска перамагло чачэнцаў, бо расіяне хацелі пакараць чачэнцаў за гандаль захопленымі імі людзьмі, за тое, што хацелі стварыць на Каўказе ісламскую дзяржаву, і не хацелі больш бачыць перамогі малой дзяржавы над вялікай Расіяй. Хвалявалі большасць грамадзян Расіі паражэнні, якія атрымалі ад малога чачэнскага народа пры Б. Ельцыне і цяпер пры У. Пуціне пабачылі, што чачэнцы былі пабіты. Гэта павялічыла прэстыж У. Пуціна як прэзідэнта Расійскай Федэрацыі.

**4 красавіка** наступіў старт касмічнага карабля Саюз ТМ-30 з касманаўтамі Сяргеем Залёціным і Аляксандрам Калеры.

**12 красавіка** Расійская касмічная карпарацыя „Энергія" прадала амерыканскай кампаніі „Спейс Хаб" эксклюзіўныя правы на выкарыстанне архіва кінадакументаў, у якіх знаходзяцца інфармацыі аб усіх касмічных даследаваннях і праграмах выкананых пры СССР і ў Расіі.

**13 красавіка** Германія і Расія падпісалі дагавор аб абмене твораў мастацтва вывезеных дзвюма дзяржавамі падчас Другой сусветнай вайны.

**14 красавіка** Дзяржаўная Дума РФ ратыфікавала расійска-амерыканскі дагавор СНЗ-2 (СНВ-2) аб скарачэнні стратэгічнай наступацельнай зброі дзвюх дзяржаў.

**18 красавіка** У. Пуцін выступіў супраць стварэння ЗША нацыянальнай сістэмы Супрацьракетнай абароны.

**21 красавіка** Дзяржаўная Дума РФ ратыфікавала дагавор аб поўным заканчэнні ядзерных выпрабаванняў.

**23 красавіка** чачэнскія баевікі напалі на калону 51 парашутнага дэсантнага палка Тульскай дывізіі і забілі 16 салдат і 7 салдат паранілі.

**24 сакавіка** падчас вучэння Чарнаморскага флота расійская крылатая ракета ўдарыла ва ўкраінскае пасажырскае судна „Верашчагін".

**26 сакавіка** ў Маскве выставілі да аглядання астанкі Гітлера, яго чэрап з дзіркай, праз якую прайшла куля з яго пісталета.

**29 красавіка** немцы перадалі Расіі фрагменты янтарнага пакоя з Пушкіна ля Санкт-Пяцярбурга, вывезенага гітлераўскім войскам падчас вайны.

Галоўны архітэктар прускага каралеўскага палаца Андрэас Шлютэр перабудоўваючы палац у Берліне першы раз выкарыстаў у апрацоўцы інтэр'ера янтар,

стварыў тры багатаарнаментаваныя рамы з люстрамі з каралеўскай калекцыі. У 1716 годзе Фрыдрых Вільгельм I падарыў янтарны пакой цару Пятру I, гэты пакой пасля смерці цара ў Царскім Сяле ўставіла ў палацы яго дачка царыца Лізавета. Немцы падчас вайны вывезлі янтарны пакой ў Кёнігсберг і часткова быў ён устаўлены ў Кёнігсбергскім замку. Аднак калі савецкае войска падыходзіла да Кёнігсберга, пакой здэмантавалі і вывезлі яго ў невядомым напрамку. Толькі фрагменты мазаікі пакоя немцы знайшлі ў 1997 годзе ў нейкага натарыуса, іх канфіскавалі і перадалі Расіі.

**6 мая** Расія была прынятая ў міжнародную арганізацыю бізнеса, у Міжнародную гандлёвую палату, якая злучае больш чым 7 тысяч прадпрыемстваў, асацыяцый і кампаній з 130 дзяржаў.

**7 мая** У. Пуцін злажыў пысягу народу Расіі як прэзідэнт. У. Пуцін адразу пачаў узмацняць прэзідэнцкую ўладу.

**11 мая** працаўнікі Генпракуратуры, ФСБ ФСНП Расіі правялі вобыскі ў цэнтральных офісах холдынга Уладзіміра Гусінскага „Медыа-Мост” у сувязі з крымінальнай справай па арт. 137, 138 і 181 Крымінальнага Кодэкса РФ. Алігарх У. Гусінскі назваў гэты вобыскі помстай за тое, што ён на канале тэлебачання ОРТ крытыкаваў чачэнскую вайну і прэзідэнта У. Пуціна. 16 чэрвеня У. Гусінскі трапіў у Бутырскую турму, абвінавацілі яго ў махлярстве. 16 чэрвеня яго выпусцілі за падпіскай, што не мае права выехаць за мяжу. 20 ліпеня ён перадаў усю сваю маёмасць і тэлевізыйны канал НТВ „Газпрому” і ўцёк за мяжу. Уладу ў першую чаргу цікавіла кантроль над НТВ, калі ён аддаў яго ўладам, дазволілі яму ўцячы за мяжу. Улады закрылі яго газету „Сегодня”, а ў яго тыдневіку „Итоги” змянілі рэдакцыю і рэдакцыйную палітыку. З У. Гусінскага пачалася барацьба У. Пуціна з алігархамі, якія выступалі супраць яго. Б. Беразоўскі таксама быў змушаны ўцякаць за мяжу. Вобыск правялі ў Цюменскай нафтавай кампаніі М. Фрыдмана і іншых. Хоць яны не мелі палітычных амбіцый і не крытыкавалі У.Пуціна. Толькі згодны з У. Пуціным быў алігарх Р. Абрамовіч і ў яго не было вобыскаў і ён жыве бяспечна за мяжой. А ён змусіў Б. Беразоўскага аддаць дзяржаве за 175 млн. долараў 49% акцыі ОРТ.

**13 мая** прэзідэнт Расіі У. Пуцін падпісаў указ № 849 „Аб паўнамоцным прадстаўніку Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі ў федэральнай акрузе”, згодна з якім у Расіі былі створаны федэральныя акругі па тэрытарыяльнаму прынцыпу рэспублікі, краі і вобласці (Цэнтральны, Паўночна–Заходні, Паўднёвы і іншыя).

**20 мая** Указам прэзідэнта былі зацверджаныя кірункі падаткавай рэформы, якія стваралі справядлівую і нейтральную падаткавую сістэму і яе спрашчалі і рабілі лепшай.

**24 мая** Дзяржаўная Дума РФ прыняла папраўку, якая забараняла прапаганду наркотыкаў і спосабаў іх прыгатавання.

## Іншыя дзяржавы

**1 студзеня** ў Англіі ўсе прадукты ў магазінах пры іх продажы пачалі азначаць у кілаграмах і грамах, а не, як да канца 1999 года, у фунтах і ў унцыях.

**1 студзеня** ў Чэхіі прайшла рэформа адміністрацыі. На месца 7 краёў + Прага стварылі 13 новых краёў + Прага. Старыя краі сталі „тэрытарыяльнымі акругамі” для дзяржаўных устаноў.

**2 студзеня** на Чорным моры ля Туапсе падчас шторму разламалася ўкраінскае судна з сухагрузам, якое плыло пад флагам Камбоджы. Матросы высадзіліся на платы і толькі адзін матрос згінуў.

**3 студзеня** ў Бейруце (Ліване) палестынскія тэрарысты абстралялі з гранатамётаў расійскае пасольства, пратэстэстуючы супраць вайны ў Чачні. Згінуў ліванскі паліцыянт і адзін тэрарыст.

**4 студзеня** ў чыгуначнай катастрофе пры сутычцы двух пасажырскіх цягнікоў у Нарвегіі згінула19 асоб.

**9 студзеня** ва Узбекістане другі раз быў выбраны прэзідэнтам Рэспублікі Іслам Карымаў, які атрымаў 91,9 % галасоў.

**13 студзеня** ў катастрофе лівійскага пасажырскага самалёта Шорт 360 згінула 22 асобы на Міжземным моры.

**29 студзеня** ў Харватыі быў выбраны прэзідэнтам Стэпан Месіч.

**30 студзеня** ў катастрофе самалёта А310 пад Абіджанам згінула 169 асоб.

**31 студзеня** Рейс 261 Alaska Airlines – планавы рейс самалёта McDonnell Douglas MD-83, кампаніі Alaska Airlines па маршруту Пуэрто-Вальярта – Сіэтл са спыненнем палёта ў Сан-Франціска. 31 студзеня 2000 года гэты самалёт разбіўся ля вострава Анакапа (Каліфорнія) з-за адмовы працы стабілізатараў. У катастрофе згінула 88 асоб (83 пасажыры).

**7 лютага** ля Кёльна ў Нямеччыне згінула 9 асоб і сотні асоб былі параненых. Цягнік ехаў з Амстэрдама ў Базель і перад Кёльнам выскачыў з рэек.

**7 лютага** ў Бялградзе ў Югаславіі ў рэстаране футбольнага клуба „Рад” быў забіты міністр абароны Паўле Буятовіч.

**10 лютага** ад амерыканскай бамбёжкі на поўдні Ірака згінула 3 асобы і было параненых 8 мірных жыхароў.

**11 лютага** наступіў у ЗША 97 старт (STS – 9) па праграме Спейс Шатл і 14 палёт шатла Індэвор з касманаўтамі Кевінам Крэгелем, Дамінікай Горы, нямецкім касманаўтам Герхардам Кілем, Джанетай Каванды, Джэнісам Восам і японскім касманаўтам Мамору Моры. Індэрор прызямліўся 22 лютага.

**13 лютага** ад тарнада на паўднёвым захадзе амерыканскага штата Джорджыя згінула не менш чым 22 асобы і больш чым 100 асоб было параненых.

**22 лютага** ва Украіне адмянілі смяротнае пакаранне.

**24 лютага** папа рымскі Ян Павел II пачаў візіт у Егіпце і на Сінаі.

**26 лютага** папа рымскі Ян Павел II быў з візітам у манастыры св. Кацярыны ля гары Сінай у Егіпце.

**1 сакавіка** першы раз жанчына Тарыя Галёнена стала прэзідэнтам Фінляндыі.

**8 сакавіка** ў катастрофе ў Японіі ў такійскім метро на станцыі ,,Нака-Мэгура” згінула 5 асоб і 63 асобы былі паранены.

**12 сакавіка** папа рымскі Ян Павел II падчас набажэнства ў ватыканскай базіліцы прасіў у Бога прабачэння вінаў рымскага каталіцкага касцёла, якія ён учыніў веруючым іншых веравызнанняў на свеце.

**17 сакавіка** ва Угандзе больш чым 500 членаў секты «Рух Звароту Дзесяці Запаведзей Бога» масава самаспаліліся.

**21 сакавіка** рымскі папа Ян Павел II пачаў візіт у Ізраіле.

**7 красавіка** ЗША нанеслі ракетна-бомбавы ўдар па Іраку, ад якога згінула 14 жыхароў, а 19 жыхароў было параненых.

**9 красавіка** ў Грузіі прэзідэнтам другі раз быў выбраны Эдуард Шэварднадзэ, атрымаўшы 82 % галасоў.

**10 студзеня** ў сталіцы Гамбіі Банджулю сілы бяспекі пачалі страляць да дэманстрантаў-студэнтаў і застрэлілі 14 асоб.

**19 красавіка** наступіла катастрофа філіпінскага самалёта Боінга-737 над Давао. Згінула 131 асоба.

**26 красавіка** прэзідэнт Л. Кучма аб’явіў, што Чарнобыльская АЭС да канца 2000 года будзе закрыта.

**10 мая** ў Індыі стала жыць больш чым 1 мільярд жыхароў.

**13 мая** ў Галандыі ў Эншэндэ згінула 23 асобы, а 947 было параненых ад выбухаў у фабрыцы феерверкаў.

**13 мая** з амерыканскага вайсковага самалёта ў Паўднёвай Карэі памылкова скінулі на вёску 6 бомб.

**18 мая** ад бамбёжак Ірака амерыканскімі і англійскімі самалётамі гіне 1 асоба, а 4 было параненых.

**19 мая** наступіў у ЗША 98 старт (STS-101) па праграме Спейс Шатл і 21 палёт шатла Атлантыс з касманаўтамі Джэймсам Халселым, Скотам Харавітцам, Сьюзанай Хелмс, рускім касманаўтам Юрыем Усачовым, Джэймсам Восам, Мэрай Уэберай і Джэмсам Ульямсам. Атлантыс прызямліўся 29 мая.

**25 мая** пасля 22-гадавой акупацыі пакінула паўднёвы Ліван ізраільскае войска.

**25 мая** закончылася Эрытрэйска-эфіопская вайна.

**26 мая** парламент Кіргістана прагаласаваў, каб дзяржаву называць ,,Рэспублікай Кіргізіяй”.

**27 мая** ў Кітаі каталіцкі святар атрымаў 6 гадоў турмы за друк Біблії і іншых рэлігійных кніг. Абвінавацілі яго ў незаконных публікацыях і ў тайнай агітацыі каталіцызму.

**30 мая** А. Акаеў у Кіргізіі падпісаў Закон аб прызнанні ў Кіргізіі рускай мове афіцыйнага статуса.

**Дзмітры Шатыловіч**

*Працяг будзе*

***З літаратурнай спадчыны***

# *Малавядомыя вершы Ігната Дварчаніна*

**Дзеяч беларускага нацыянальнага руху, паэт, літаратуразнавец Ігнат Дварчанін (1895-1937) быў родам з вёскі Погіры Слонімскага павета (цяпер гэта Дзятлаўскі раён).**

У свой час ён скончыў гісторыка-філалагічны факультэт Пражскага ўніверсітэта са ступенню доктара філасофіі. Пражскі перыяд жыцця Ігната Дварчаніна характарызуецца актыўнай грамадскай дзейнасцю. Ён быў старшынёй Аб’яднання прагрэсіўных беларускіх студэнтаў, сябрам Беларускай Рады, якая аб’ядноўвала беларускую эміграцыю ў Чэхаславакіі.

З 1926 года Ігнат Дварчанін у Вільні ўступіў у Беларускую сялянска-работніцкую Грамаду (БСРГ), быў цесна звязаны з яе кіраўніцтвам, выконваў даручэнні Цэнтральнага сакратарыята БСРГ, вёў лекцыі ў Віленскім гуртку грамады. Ён працаваў сакратаром Беларускага выдавецкага таварыства, настаўнікам Віленскай беларускай гімназіі.

У 1928 годзе ад Навагрdadскай выбарчай акругі Дварчанін быў абраны ў польскі сейм, удзельнічаў у беларускім рабоча-сялянскім пасольскім клубе «Змаганне», які фактычна працягваў дзейнасць Грамады. У 1930 годзе беларускі дзеяч быў арыштаваны польскімі ўладамі і асуджаны на 8 гадоў тур-

мы. Праз два гады яго вызвалілі ў выніку абмену палітзняволенымі паміж СССР і Польшчай. Ігнат Дварчанін пераехаў у БССР.

3 лістапада 1932 года беларускі дзеяч працаваў у АН БССР у камісіі па вывучэнні Заходняй Беларусі, выконваў абавязкі дырэктара Інстытута мовазнаўства. А 16 жніўня 1933 года яго беспадстаўна арыштаваюць органы НКУС па справе «Беларускага нацыянальнага цэнтра». Пастановай судовай калегіі ад 9 студзеня 1934 года ён быў прыгавораны да вышэйшай меры пакарання, якую замянілі на 10 гадоў пазбаўлення волі.

Пакаранне Ігнат Дварчані адбываў на Салавецкіх астравах і будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага канала. Але 25 лістапада 1937 года, паводле прыгавору „тройкі”, яго расстралялі…

Ігнат Дварчанін пачаў друкавацца з 1917 года. Тады быў апублікаваны яго першы верш „Да беларусаў-інтэлігентаў” у „Беларускай радзе” і верш „Покліч” у „Вольнай Беларусі”. Вершы паэта змяшчаліся таксама ў газеце „Дзянніца”, часопісах „Родныя гоні”, „Маланка”, „Наш шлях”, „Маладое жыццё”, „Беларуская школа ў Латвіі” і ў іншых. Тэматыка яго твораў гэтага перыяду была прысвечана барацьбе за адраджэнне беларускай культуры, узняцце яе на больш якасны ўзровень, усведамленне беларускім народам сваёй гістарычнай і палітычнай значнасці, роўнасці з іншымі народамі.



**Ігнат Дварчанін**

Падчас вучобы ў Пражскім універсітэце змяшчаў вершы рэвалюцыйна-рамантычнай накіраванасці ў студэнцкіх выданнях „Прамень”, „Студэнцкая думка”, „Перавясла”.

Асобныя вершы Ігната Дварчаніна друкаваліся ў беластоцкім „Беларускім календары”, у часопісе „Беларусь”, у зборніку „Ростані волі” (Мн., 1990), якія склаў Уладзімір Каленік і ў іншых выданнях.

У 1995 годзе ў Гродне выйшла з друку кніга „І. С. Дварчанін. Гісторыка-біяграфічны нарыс”, над якой парупіліся Яўген Місарэвіч і Мікалай Каралёў. Гэта выданне складаецца з чатырох раздзелаў. У адзін з іх увайшлі вершы Ігната Дварчаніна і пераклад паэмы „Дванаццаць” Аляксандра Блока на беларускую мову. Усяго было апублікавана 22 вершы Ігната Дварчаніна. Адзін з іх – „З чужой стараны” апублікаваны нават у скарочаным варыянце – толькі дзве страфы. Гэтыя надрукаваныя вершы – далёка не ўся паэтычная спадчына заходнебеларускага паэта. Дзесяткі вершаў Ігната Дварчаніна раскіданы па многіх беларускіх выданнях 1920-х гадоў. Даўно іх пара сабраць пад адну вокладку і выдаць асобным выданнем.

Чытачам „Czasopisu” прапаную малавядомыя вершы Ігната Дварчаніна, якія пасля яго смерці ніколі не друкаваліся. Яны былі напісаныя напачатку 1920-х гадоў.

**Сяргей Чыгрын**

**Ігнат Дварчанін**

## З чужой стараны

О, Беларусь, о, край мой мілы,
Старонка родная мая.
Тут расказаць не маю сілы,
Што адчуваю ў сэрцы я.
Цябе я бачу ў блеску сонца,
У срэбных пацерках расы,
Што красяць усё ў табе бясконца
І луг, і поле, і лясы.
Цябе убраную ў шаты,
Ў зялёны, свежы, як бы жар.
Пакроў цудоўны і багаты,
Што робіць вобраз поўны чар.
Народ я бачу веры поўны,
Няволі выжыўшы кашмар.
Усім народам свету вольны
У роднай хаце гаспадар.
Люблю цябе, о край мой родны!
За што? Сказаць бы я не мог…
Што мушу мо, як пёс нягодны
Туляцца па чужых кутох.
А можа быць сваю нядолю
Ў тваім я твары палюбіў,
Сваю аддаўшы ветру волю
Сабе чужую налажыў.
Што мне там месца не знайшлося,
Паміж улюбленых сялiб,
Дзе гнецца і шуміць калоссе,
Паміж галлістых груш і ліп.
Што з дому выгнаны злым рокам,
Табою запаўняюць сны.
Як птушка ў выраі далёкім
Чакаю светлых дзён вясны.

## Прывет

Прывет вам з залатое Прагі,
Пад гоман светлае вясны.
Што паднялі штандар адвагі
Між бруду, здзеку і маны.
Балююць хай учарашнія героі
І стогне хай прыгнечаны народ,
Хай злыдні цешацца ва ўпоі –
Ды хай уступяць свой чарод.
Штандар дзяржыце горда, смела
І верце – праўда пабядзіць.
На правае, святое дзела
Хай сэрца ў страху не дрыжыць.
Вясна! З чароўнаю вясною
Прыйдзе жаданае святло.
І кінем крыўду за сабою,
Як бы яе і не было.

## Вецер

Вее вецер, завывае,
Грае, свішча на прасторы.
Хмары чорныя ганяе,
Ломіць дрэвы, крышыць горы.
І ў мяне на сэрцы бура,
Каб няволі, крык адняла,
Між людзей адзін панура,
Як ачмураны блукала.
Свет вялікі, свет шырокі,
Для мяне на свеце цесна.
Рвусь, імкнуся ў розны бокі –
Духу ж скалы ўсе адвесны.
Вецер буйны, дух адвагі,
Мы так родныя з табою,
Як бяздомныя брадзягі
З цэлым зместам мы у бою.
Не знаходзім мы спакою
У прыгожым людзям свеце,
Ўсё жыццё для нас маною
Пра нужду мы мусім пеці.
Зробім сполку, брат, з табою,
Двох палецім на прасторы.
Мо распрасцімся з нудою,
Мо разгонім разам гора.

## Мінор

Аб чым пяяць магу?
Дзе тоны падбяру?
О, не звініць струна,
Спакойна ліра спіць.
Там на двары вясны
Жыццё ідзе, жыццё,
А холад на душы,
А сэрца, як бы лёд.
А крыллі дзе мае?
Апалі да зямлі
Не рвецца сэрца ўвысь,
Маўчыць зусім душа…
Надзея зарасла
Пякучай крапівой.
І свет, як бы не свет,
Жыццё, як не жыццё,
Збаўленне дзе найду?
Няўжо яго няма?
Няўжо патух агонь,
Няўжо зацміўся свет?
Гэй, стой, маўчы душа.
Не муч сябе, не муч, –
Зярняты у зямлі.
І будзе, будзе ўсход,
Надыйдзе красны май.
Надыйдзе блеску час,
І краскі зацвітуць
На полі дзіўна так.
Прыйдзе, прыйдзе яно,
Прыйдзе, прыйдзе святло.
І струны зазвіняць,
І сэрца запяе.




**Часопіс, дзе друкаваў свае вершы Ігнат Дварчанін**

### Адраджэнне

Касцёр гарыць, агонь палае,
Нясе усюды блеск і свет,
Кругом дружына маладая,
Прыймае дзедаўскі завет.
Не дождж ідзе, шапочуць ветры,
Праснулісь полі і лясы
Дрыжаць, трасуцца багны, ветры,
Страчаюць новыя часы.
Усе, усё ўстае на ногі,
Зганяе прошлае як дым…
Імкнецца, рвецца да дарогі,
Куды? Чаго? На што? За чым?
Агонь шыбае вышай, вышай,
На небе свеціць, як зара.
Ўсё прыцягае, ўсё калыша,
Пара прышла, прышла пара.
І словы дзедаў раздаюцца,
Ўсяляюць моц, пышаць красой.
І слёзы радасці ліюцца
На землю срэбнаю расой.

*Прага, 1 лістапада 1921 г.*

### У тумане

Мы брыдзем ў тумане да адвечнай далі,
Сколькі ўжо ззаду, сколькі напярод.
Чэрцім жыццёвыя мудрыя скрыжалі
І падаем, уступаем для другіх чарод.
Там дзесь прамень свету задрыжыць і згасне,
Рукі працягаем, каб яго злавіць.
Але то міражы, як бы сон ці басня
Зноў страшная цемра ўвакол стаіць.
А туман суровы косьці раз’ядае
І марозіць сэрца й душу ледзяніць.
І краса спадае з шчокаў маладая,
Валімся, каб болей ні аб чым не сніць.
Дзе ж канец імкненняў, чалавецтва мэта,
Дзе збаўлення прыстань, не відна яе –
Схована у далі, ў цемры без прасвета,
Там дзесь у нязнана-незямным краю.
Да якогась пункту ўсё брыдзем ў тумане,
А яго не бачым, схованы за вал.
І балота месім, бродзім на дзірване
Ідэал шукаем, смешны ідэал.
Вежы адбудуем і глядзім у гору,
Ці не там схаваны дзіўны талісман.
Але сумна страшна ў незямным прасторы:
Увакола цемра, увакол туман.
Хтось незразумелы, ўсемагутны вечны
Пасадзіў на землю між балот і гор.
І смяецца дзіка, і глядзіць бяспечна,
Як там мітусіцца бедны, жалкі твар. ■

# Успаміны Вітаўта Кіпеля і Віктара Шведа

**Што прыцягальнае можа быць ва ўспамінах старых беларускіх дзеячаў? Чаму цяжка ад іх адарвацца ад першай старонкі? Майму пакаленьню – можна сказаць – пашчасьціла пазнаёміцца з беларускімі дзеячамі ХХ стагодзьдзя, асабліва яго другой паловы. Перамены ў канцы мінулага ўжо стагодзьдзя, зьвязаныя з адраджэньнем беларускай незалежнасьці далі таксама штуршок шмат каму, каб паўспамінаць сваю дарогу да беларускасьці і зафіксаваць для нашчадкаў свой уклад у беларускую культуру, нягледзячы, куды лёс чалавека кінуў – ці з вёскі ў горад, ці з Беларусі ў Амэрыку. Незалежна ад лёсу кожны па-свойму даходзіў да Беларусі, кожны аставіў свой адметны сьлед.**

## «Па-за Беларусьсю, для Беларусі»

Вітаўт Кіпель, найбольш вядомы беларускі грамадзкі дзеяч у Амэрыцы, аўтар кнігі «Беларусы ў ЗША» (Менск 1993) – сын беларускіх інтэлігентаў Яўхіма і Марыі з Зубкоўскіх, нарадзіўся 30 траўня 1927 г. у Менску (як сам кажа). Тады ў 20-ыя гады быў гэта Менск, а не Мінск. Як прыстала на сына беларускіх інтэлігентаў, быў ён беларускамоўны. Тады дарэчы і адбывалася беларусізацыя, якая перарасла ў «нацыяналдэмакратызм» як нэгатыўную чамусьці зьяву. У пачатку 1930-ых гг. шмат хто з беларускіх інтэлігентаў як «нацдэм» быў арыштаваны, выселены за межы БССР. Такі лёс у 1930 г. сустрэў і Яўхіма Кіпеля, які апынуўся ў Налінску ў цяперашняй Кіраўскай вобласьці. У 1932 г. туды паехала і яго жонка з сынам. У 1935 г. пераехалі сьпярша ў Вятку, а пазьней у Арол, дзе 30 снежня Яўхім Кіпель быў арыштаваны.

Дзяцінства ў цені прасьледвань-

ня бацькі за беларускую дзейнасьць шмат чаму загартавала Вітаўта. Навучыла стрыманасьці ў выказваньнях і ў паводзінах. Вітаўт вучыўся ў рускіх школах, але ў хаце з маці размаўляў па беларуску, таксама падчас канікулаў, якія праводзіў у дзядулі ў Менску. Для бясьпекі быў ён Зубкоўскі Вітаўт – маці памяняла прозьвішча Вітаўта на сваё дзявочае, як больш надзейнае ва ўмовах савецкай рэчаіснасьці 30-ых гадоў.

У Беларусь вярнуліся толькі «за немцамі» «здаецца» 25 чэрвеня 1942 г., фармальна як бежанцы. Менск быў зьнішчаны. Бацька Яўхім атрымаў працу ў Беларускай Народнай Самапомачы – у інспэктараце беларускіх школаў. Вітаўт пайшоў у 7-ую клясу 29 народнай школы, якая была поўнасьцю беларускамоўная. Вучыўшыся раней на рускай мове, беларускую мову дасканаліў пад кірункам Антона Лёсіка. Быў гэта вельмі цікавы час, калі немцы падтрымлівалі беларускую культурную дзейнасьць. Успамінаючы сваю школу Вітаўт Кіпель піша: «Нямецкага прапагандысцкага ціску ў школе не адчувалася – партрэтаў Гітлера нідзе не вісела. Над уваходам у школу – гэта быў такі франтон – часам вісеў адзін беларускі сьцяг. І за той год, што я вучыўся ў 29-й школе, немцаў там і блізка не было» (с. 96).

У сувязі з утварэньнем Саюзу Беларускай Моладзі у лютым 1943 г. «прыйшоў чалавек у школу, вытлумачыў старэйшым вучням, што рыхтуецца стварэньне маладзёвай арганізацыі, яна будзе нацыянальная, будуць эмблемы, форма. Ніхто пытаньняў не задаваў, але ў арганізацыю запісалася напачатку, можа, чалавек 10-15. Яшчэ той арганізатар сказаў, што арганізацыя мае свой будынак – штаб СБМ, туды можна будзе хадзіць на лекцыі беларускіх танцаў. (…) Дык вось, штаб СБМ будзе каля Нямігі, там будуць скокі-танцы, сьпевы, гісторыя, геаграфія. Са школы мала хто




хадзіў, ніхто не заклікаў, не прымушаў, але я хадзіў рэгулярна – мяне гэта цікавіла» (с. 96-97) – успамінае тыя часы Вітаўт Кіпель.

Пра нямецка-беларускія адносіны згадвае: «Зь нямецкімі вайскоўцамі кантактаў бадай што й не было, дый зь немцамі наагул, хіба што былі кантакты ў адміністрацыі. А на «народным» узроўні – пад базары немцы прыходзілі, але ўваход на базар немцам быў забаронены, і беларускі паліцай мог арыштаваць немца на базары. Перад уваходам на базар стаялі вялікія шыльды з абвесткамі па-беларуску і па-нямецку, дзе пісалася, што далей немцы ісьці не могуць. (…) Нямецкае і беларускае жыцьцё магло перасякацца на прыватным узроўні. (…) Я ведаў са слоў маці і бацькі, што зь немцамі былі кантакты на ўзроўні адміністрацыі. Маці казала, што ў газетах – «Беларускай вёсцы», «Голасе вёскі» – атрымлівалі ад немцаў матэрыялы для перадавіцаў, і іх трэба было перакладаць і публікаваць, але ў «Голасе вёскі» бацька часта іх не пускаў, бо, па-першае, па-нямецку слаба гаварыў, а перакладчыка не было, дык бацька неяк абыходзіў. Калі не зьмяшчалі важнай нямецкай перадавіцы, то ў рэдакцыю прыбягаў немец з камісарыяту і пачынаў крычаць, бывалі і сваркі, часам нават і бурныя, але рэдакцыя была беларускім месцам, побач была беларуская паліцыя, і працаўнікі адчувалі сябе спакойна. Дзе былі немцы навідавоку, дык гэта каля Салдацкага дому (Soldatenheim) на Інтэрнацыянальнай (…) – гэта была чыста нямецкая ўстанова. Немцы часта прыходзілі і з нашымі беларусамі – як іх пушчалі, ня ведаю, я ў тым Soldatenheim'е ніколі ня быў, але перад будынкам я бываў частавата, бо ў салдатаў можна было купіць цыгарэты. (…) Дзяўчат, якія «хадзілі» зь немцамі было няшмат. Да немцаў наагул стаўленьне было – гэта ня нашы людзі, акупанты. А ў дзяўчат гонар быў. (…) Наогул, народ перад немцамі трымаўся з гонарам: мы – народ, мы тут жывем, вы напалі на нас, вы – чужыя, акупанты, мы вашыя загады і патрабаваньні выконваем, але тут наша зямля, а вы – ворагі» (с. 111-112).

Вітаўт Кіпель успамінае розныя сітуацыі перыяду вайны, як усё было складана і не адназначна. Прадстаўляе няўпэўненасьць і дылемы людзей перад прыходам «нашых» летам 1944 г.: «Развагі, думкі пра «нашых» нікога не пакідалі ў спакоі. Думаю, людзі спадзяваліся на зьмены, на тое, што «нашыя» ня будуць такімі, якія яны былі да вайны. І гэтым яны, мабыць, апраўдвалі сваё рашэньне, што яны нікуды не паедуць. (…) Адзін другому кажа: «Божа-божа, хто яго ведае, ну можа нічога ня будзе – я ж нічога не раблю....» (…) Для мяне гэта ўсё былі пустыя развагі, бо я ведаў, што маёй сям'і бацька яшчэ ў Арле задаў кірунак уцякаць далей. (…) Толькі ўцякаць – далей, далей і далей» (с. 131). 29 чэрвеня 944 г. Вітаўт Кіпель, як і шмат іншых прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, выязджаў з Менска. Гэта ці не самы цікавыя эпізоды з успамінаў. Мала такіх згадак ёсьць запісаных. Вітаўт Кіпель таксама піша: «Канец чэрвеня – пачатак ліпеня 1944 году ў маёй памяці замацаваўся як бурлівы пэрыяд: нэрвова, мітусьліва я разьвітаўся зь дзяцінствам і юна-

цтвам і пераходзіў у невядомае – новыя краіны, новыя людзі. На душы было цяжка – выязджаць з свайго гораду, з Бацькаўшчыны ахвоты не было» (с. 135).

Здаецца найбольш вартасны пазнаўча той фрагмент успамінаў, у якім мова пра жыцьцё у Нямеччыне, пра лагеры ДП, пра выезд у Амэрыку, пра навуку, пра падзелы на «крывічоў» і «бэцээраўцаў». Аўтару ўдалося паступіць на геалягічны факультэт ва ўнівэрсытэт у Лювэн у Бэльгіі. Там таксама дзейнічаў у Саюзе Беларусаў Бэльгіі і фізычнай працай зарабляў на жыцьцё. Пасьля заканчэньня ўнівэрсытэта пашчасьціла Вітаўту Кіпелю зрабіць яшчэ дактарат. У ЗША ляцеў 21 сьнежня 1955 г, заручаны ўжо з Зорай Савёнак.

Пачаткі у Амэрыцы былі нялёгкія – паявіліся праблемы з працай, якая давалася толькі грамадзянам ЗША. 25 лютага 1956 г. згулялі вясельле «паводле амэрыканскага звычаю – з аркестрам, сьцягамі, надзьмутымі каляровымі шарыкамі. Беларускасьць вясельлю задавалі сваццья і сват» (с. 232). Вітаўт Кіпель успамінае: «Мы пачыналі літаральна зь нічога, апрача дыплёмаў, якія мы атрымалі ў Лювэне, і, безумоўна, падтрымкі з боку бацькоў. Зорыны бацькі сказалі, што дапамогуць чым могуць, але не грашыма – іх не было. Мае бацькі рэсурсаў надта ня мелі, але на выпадак патрэбы пару капеек заўсёды маглі даць. Гэтак пачыналася наша амэрыканскае жыцьцё, а вясельле сталася добрым уваходам у амэрыканска-беларускае грамадзтва» (с. 232). Вітаўт Кіпель шукаючы доўга працы, «калі настрой быў зусім прыбіты і жыцьцё здавалася беспрасьветным» (с. 241), заходзіў у публічную бібліятэку на рагу 42-й вуліцы і 5-га авеню ў Нью Ёрку. Там атрымаў выпадкова таксама працу (с. 243), якой прысьвяціў усё сваё далейшае жыцьцё на эміграцыі. З 1958 г. Вітаўт Кіпель дзейнічае ва ўправе Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва, заснаванага ў 1951 г. Яго галоўным дасягненьнем сталі «Запісы» – салідны навуковы часопіс і выдавецкая дзейнасьць. Пра ўсё гэта даволі падрабязна расказвае Вітаўт Кіпель, падобна, як і пра грамадзкую дзейнасьць у Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньні, у скаўтынгу, пры арганізацыі беларускіх фэстываляў, у рэспубліканскай партыі.

Да Вітаўта Кіпеля ў бібліятэку заходзілі госьці з Беларусі, якія працавалі пры ААН, або прыязджалі з дэлегацыяй з БССР: Міхаіл Мінкевіч, Якаў Качан, Пятро Глебка, Эдуард Цыганкоў, Ігар Жолудзеў, Іван Чыгрынаў, Вячаслаў Адамчык, Алесь Адамовіч, Анатоль Міхайлаў, Аркадзь Тоўсьцік, Мікалай Сікорскі, Іван Стэльмашонак, Рыгор Барадулін, Анатоль Вярцінскі, Адам Мальдзіс. Бывалі і «іншыя» госьці з Беларусі.

У апошняй частцы ўспамінаў «Вяртаньне ў Беларусь» Вітаўт Кіпель прадставіў шляхі, якімі ён трапіў у Беларусь пасьля 1990 г. Сьпярша быў «Рым-I» у Рыме з 30 красавіка па 4 травеня 1990 г. – канфэрэнцыя прысьвечаная Вялікаму Княству Літоўскаму. Пасьля ў траўні 1991 г. Зора і Вітаўт Кіпелі праз амаль 47 гадоў завіталі ў Менск на I кангрэс Міжнароднай Асацыяцыі Беларусістаў: «Першая ноч у Менску пасьля амаль паўстагодзьдзя! Неяк дзіўна сябе адчувалі – гаварылі, разважалі. Былі вельмі задаволеныя, што на жыцьцёвым шляху давялося вярнуцца ў Менск – горад, дзе мы нарадзіліся!» (с. 404). Вітаўт Кіпель успамінае ўзнёслы настрой падчас кангрэсу: «Паўсюль беларуская мова. Здавалася – уся Беларусь такая, як тут на зьезьдзе. Так што першыя дні мы былі калі не захопленыя, то вельмі задаволеныя. Беларусь сапраўды выглядала такой, якой бы нам яе хацелася бачыць – беларуская, людзі думаюць пра Беларусь, працуюць над беларускімі тэмамі» (с. 405). Пазьней Кіпелі бывалі не адзін раз у Беларусі, былі таксама на I Зьезьдзе Беларусаў Сьвету ў ліпені 1993 г., адведвалі родныя мясьціны, сустракаліся са сваімі школьнымі сябрамі. Думалі нават аб працы ў Беларусі, аднак «чаканьне, ці то набыць кватэру, ці атрымаць працу ў Беларусі (без аплаты – працаваць, каб ствараць!) было безвынiковае, адказам было маўчаньне. Людзі, ад якіх я спадзяваўся рашэньня, згоды, – адышлі ўбок, «зьніклі». Жорсткая рэальнасьць паказвае: Выкіньце з галавы думку аб перасяленьні ў Менск, аб працы там. Добра, што хоць бы «дазваляюць» глядзець на Беларусь! А шкада – мы яшчэ шмат чаго маглі б зрабіць карыснага для Бацькаўшчыны. Розумам гэта цяжка ахапіць – чаму эмігрантам нельга працаваць для Беларусі? Але так ёсьць. І тым ня менш аддавацца роспачы няма патрэбы. Можна прадаўжаць жыць і дзеіць, як жылося і дзеілася да гэтага часу: працаваць для Беларусі па-за Беларусьсю» (с. 430). Такой сумнай нотай канчаюцца ўспаміны, якія чытаецца на адным дыханьні магчыма таму, што спісаныя яны Сяргеем Шупам з аповедаў Вітаўта Кіпеля. Іх аўтар явіцца тут жывым апавядальнікам, якога хочацца і хочацца слухаць ды шмат дзе яшчэ і распытваць, удакладняць. На дзіва займальныя яны, хаця нагавораныя бібліятэкарам, які ўсё ж такі не абмяжоўваўся ў жыцьці толькі і выключна да месца сваёй працы, хаця і яна была шмат у чым нечаканай і цікавай. Бачны ў іх тэмперамент Вітаўта Кіпеля.

Успаміны выйшлі пад рэдакцыяй Сяргея Шупы, з прадмовай Янкі Запрудніка, у выдавецтве Зьміцера Коласа ў Мінску у 2015 г.

## «Цаглінка ў гісторыю беларушчыны ў Польшчы»

Успаміны Віктара Шведа «З Мора ў горад» маюць больш паэтычны загаловак, чым успаміны Вітаўта Кіпеля. Пісаў жа іх паэт!

Што магло б быць дарэчы паэтычнага ў загалоўку «З Менску у ЗША» – парафразуючы? Успаміны Віктара Шведа выйшлі ў Беластоку ў 2015 г. стараньнем Праграмнай рады тыднёвіка «Ніва», які шмат чым забавязаны перад паэтам.

Здавалася б, чым могуць быць цікавыя ўспаміны амаль аднагодкаў? Віктар Швед нарадзіўся 23 сакавіка 1925 г. у вёсцы Мора на Беласточчыне. Маладзейшаму на два гады Вітаўту Кіпелю быў наканаваны зусім іншы лёс чым Віктару Шведу. Аказваецца, лёс вельмі залежыць ад прасторы, у якой чалавек нарадзіўся. А Віктар Швед нарадзіўся ў Польшчы, хаця ў поўнасьцю беларускай вёсцы Мора на Беласточчыне. Ад апісаньня яе гісторыі і пачынае свае ўспаміны паэт, заключаючы яго сваім вершам «Няма ўжо Шведаў роду ў Моры». 90-гадовы досьвед аўтара паказвае перамены ў часе і прасторы – ад нараджэньня да канца 80-ых гг., калі Віктар Швед выйшаў на пенсію і пасяліўся ў Беластоку, пачынаючы новы этап у жыцьці.

У першай частцы «У адроджанай краіне» апісвае сваё дзяцінства і навуку ў польскай школе ў Моры, а пасьля ў Орлі: «Не было на Беласточчыне навучання беларускай мове. Польскія асветныя ўлады арганізавалі вясковыя чатырохкласныя школы і так прыдумалі ў іх навучанне: дзеці вучыліся сем гадоў; у першым і другім класе па годзе, у трэцім два гады і ў чацвёртым класе тры гады» (с. 28). Тады Віктар Швед пачаў пісаць вершы на польскай мове (яны і далучаныя ва ўспамінах). Апісаныя ўмовы жыцьця ў міжваеннай Польшчы не былі лёгкімі – хацелася б пра іх больш прачытаць, але ў дзіцячай памяці захаваліся фрагменты пра тую нецікавую для беларусаў рэчаіснасьць.

Другая сусьветная вайна запісалася ў памяці Віктара Шведа спярша ўваходам немцаў (1 верасьня 1939 г.), а пасьля 17 верасьня – Чырвонай




Арміі. «Трэба сказаць, што савецкія вайскоўцы карэктна ставіліся да мясцовага насельніцтва. (….) Невялікі атрад Чырвонай Арміі затрымаўся таксама і ў маёй вёсцы Мора дзеля «ўтрыманьня парадку». Мае аднасяльчане сустракалі чырвонаармейцаў без трыумфальных арак. (…) Я пайшоў вучыцца ў новаадкрытую ў Орлі беларускую дзесяцігодку» (с. 47-48). Гэтай школе прысьвяціў некалькі старонак, пералічваючы настаўнікаў і падаючы тры запамятаныя вершы, напісаныя тады на беларускай мове (с. 53-54).

Часы нямецкай акупацыі пасьля 22 чэрвеня 1941 г. у памяці Віктара Шведа захаваліся перадусім як генацыд арлянскіх яўрэяў, небяспека звязаная з прысутнасьцю савецкіх партызанаў і вывазкай на прымусовыя работы ў Нямеччыне. Як сьцьвярджае Віктар Швед, «падчас гітлераўскай акупацыі не працавала нашая вясковая школа, не было таксама навучання і ў Орлі. Познай восенню і зімою падрастаючая вясковая моладзь мела многа вольнага часу. Нашы дзяўчаты пралі на калаўротках лён і воўну на вопратку цэлай сямейцы. Збіраліся яны па чарзе па вясковых хатах і, працуючы да позняй ночы, гутарылі аб розных справах і співалі беларускія народныя і рускія савецкія песні. На гэтыя дзявочыя вячоркі прыходзілі таксама вясковыя хлопцы, якія жартавалі, расказвалі анекдоты і выконвалі разам з дзяўчатамі вядомыя ім песні» (с.75-76). Быццам бы ідылія ў ваенны час, але далей Віктар Швед апісвае, як за спевы савецкіх песень на вясковай вуліцы біў яго ды таптаў ботамі паліцай. Характэрна, што казаў ён на польскай мове: «Odechce ci się, łajdaku, raz na zawsze śpiewania kacapskich piosenek» (с. 76). Эпізод на столькі характэрны, што запамятаўся паэту на ўсё жыцьцё. Сьведчыць ён таксама пра тое, што ў паліцыі падчас нямецкай акупацыі працавалі таксама палякі, не толькі беларусы.

Пасьляваенны перыяд Віктар Швед называе часам трывогі і надзеі. На занятай саветамі ў ліпені 1944 г. Беласточчыне пачалі аднаўляцца беларускія школы. У Гайнаўцы запрацавала беларуская гімназія, у якую паступіў аўтар успамінаў. Кіраваў ёй Васіль Бахар, абсальвент Навагрудзкай беларускай гімназіі ў даваенны час. Навучаў ён беларускай мовы. Настаўнікі склад быў даволі цікавы: Павал Сламянка, Зінаіда Грыцкевіч, Галена Панько, Людміла Панько, а. Сэрафім Жалезьняковіч, Георгій Голуб, Ціхан Антасюк, Васіль Літвінчык. Шкада, што так мала пра іх напісана, шкада, што  не апісана школьнае жыцьцё і прыгоды. Праўда, гімназія праіснавала толькі адзін год, але была яна феноменам на той час на Беласточчыне. Закрылася яна разам з арыштам і дэпартацыяй у Савецкі Саюз яе дырэктара. Віктар Швед прадаўжаў навуку ў беларускай гімназіі ў Бельску Падляшскім, якой кіравалі Анатоль Тыміньскі, а пазьней – Яраслаў Кастыцэвіч. На жаль, яна таксама была закрыта ў ліпені 1946 г.

Тады Віктар Швед разам з Хведарам Галёнкам падаліся ў Варшаву – дзеля далейшай навукі і працы. Там, у разбуранай вайной Варшаве, пачаў працаваць журналістам у Польскім прэсавым агенцтве і студыяваць журналістыку ў Варшаўскім унівэрсытэце. У 1953 г. ажаніўся з варшавянкай, з якой мае

сына Славаміра і дачку Анну.

Новым перыядам у жыцьці Віктара Шведа стала паўстаньне Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства і заснаваньне тыднёвіка «Ніва». «Ад 1 студзеня 1957 года быў прыняты ў рэдакцыю «Нівы» і працаваў тут да канца сакавіка 1958 года. Працаваў бы ў «Ніве» магчыма аж да пенсіі, калі б на II З'ездзе БГКТ у Беластоку не выбралі мяне сакратаром Галоўнага праўлення на працяг двух гадоў. Вярнуўшыся ў Варшаву, працаваў я сакратаром Праўлення аддзела і быў штатным інспектарам ГП, адказным за працу Варшаўскага аддзела БГКТ. З 1965 да 1987 года працаваў я старшым рэдактарам Выдавецтва «Кніга і веды» ў Варшаве. У 1987 годзе выйшаў я на пенсію і пераехаў у Беласток, дзе пастаянна пражываю» (с. 111-112).

У частцы прысьвечанай сям'і Віктар Швед апісаў сваіх бацькоў, брата і сясцёр, а таксама дваюраднага брата. Частка «У абарону роднага» паэт прыгадвае эпізоды з дзейнасьці ў БГКТ, сустрэчы з Максімам Танкам, Уладзімірам Караткевічам, Піліпам Кізевічам, Яўгенам Аніськам, з амэрыканскімі беларусамі. Аўтар апісвае таксама незвычайныя індывідуальнасьці, якія сустрэў на дарозе свайго жыцьця. Сярод іх знаходзім партрэты прафесара Васіля Белаказовіча, Міколы Гайдука, Пятра Ластаўкі, Кастуся Майсені, Мар'яна Пецюкевіча, Янкі Жамойціна.

Успомніў таксама Віктар Швед землякоў, якія пасьля II сусьветнай вайны апынуліся ў Беларусі: Уладзіміра Казбярука, Яўгена Міклашэўскага, Серафіма Андраюка, Аляксея Карпюка. Прыпомніў ужо крыху прызабытых мастакоў: Міхася Забэйду-Суміцкага, Станіслава Казуру, Эдварда Гойліка, Земавіта Фядэцкага і Юзафа Рыбінскага.

Некаторыя нарысы Віктар Швед раней публікаваў у «Ніве». Іх сабраньне пад адной вокладкай мае сваю неацэнную вартасьць. Можна пазайздросьціць паэту і журналісту кантактаў з вядомымі людзьмі, якіх ужо зараз няма сярод жывых. Чытаючы пра іх часта хочацца ведаць больш, чым пра іх напісана, бачыць іх жывымі, у розных жыцьцёвых сітуацыях.

З успамінаў Віктара Шведа бачна, як яго жыцьцё прасякнута было беларускасьцю – спярша хатняй, сямейнай, пасьля беларускасьць вывучалася і падмацоўвалася ў школе. Таму і не дзіва, што калі паўстала БГКТ, апынуўся ў разгары яго дзейнасьці, стаў беларускім паэтам і да сёньня піша на беларускай мове.

Гэта, што апісана ў кнізе, толькі сігнальна пазначана, што варта запісаць для будучыні. Можа чытаючы ўспаміны Віктара Шведа, у каго-небудзь паявіцца нездаволенасьць стылем – маўляў: нікога не крытыкуе, з нікога не насьміхаецца. І сам Віктар Швед явіцца як быццам у цяні сваіх герояў. Не «прыўкрашвае» сябе, як гэта часта здараецца ў аўтараў успамінаў. Па-журналісцку, у справаздачным жанры, падкідаючы сям-там верш, піша пра сваё жыцьцё. Успаміны багатыя фактамі і да іх павінен зазірнуць кожны, каго цікавіць пасьляваенны беларускі рух у Польшчы. Ёсьць яны доказам на жывучасьць беларускасьці на Беласточчыне, ды наогул у Польшчы.

***

Прачытаўшы успаміны Віктара Шведа і Вітаўта Кіпеля можна задумацца над беларускім лёсам, які ніколі ня быў простым. Абедзьве кнігі прыгожа аформленыя, багатыя на здымкі, з паказальнікам імёнаў, пры тым салідна выдадзеныя (у цьвёрдай вокладцы – з партрэтам аўтара). Тое, што іх адрознівае – гэта правапіс беларускай мовы, але і ён няхай будзе доказам рознага вопыту аўтараў і розных выдавецкіх традыцыяў.

**Лена Глагоўская**

*Вітаўт Кіпель «Жыць і дзеіць» (Мінск 2015, сс. 441);*
*Віктар Шведа «З Мора ў горад» (Беласток 2015, сс. 316).*

# Eugeniusz Kabatc Młyn nad Narewką

## Rozdział II

## Pierwsza wojna narodów

Najpierw gdzieś daleko, za Warszawą i w Prusach Wschodnich, wojska rosyjskie szarpnęły się bojowo do przodu i echa wojny docierały do Puszczy jedynie decyzjami odkładania carskich łowów. Zastąpili je kłusownicy, wśród których znaleźli się miejscowi chłopi z obrzynami, a między nimi i nasi myśliwi z „gniazda", przygotowujący zwiększone zapasy dziczyzny na zimę. Na wszelki wypadek.

Na wszelki wypadek dziadek zaopatrzył dom w solidne okiennice.

Tu nigdy nie było zupełnie spokojnie. Ale utrzymywał się stan jakby do przetrwania, do wytrzymania w znoju jakby na drugim planie. Nawet wówczas, gdy imperium dziesięć lat wcześniej przystąpiło do wojny na Dalekim Wschodzie, jej echa docierały tu w strzępach, czasem bolesnych, to prawda, gdy poczta przynosiła wiadomość od władz wojskowych o „poległym w obronie ojczyzny", przedtem wziętym stąd „w sołdaty"; czasem jednak podnosząc na duchu, gdy marynarz Wołkowycki – podobno chłopiec z dalszej

